# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

№ 21-22

двухтыднёвая часопіс для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932

4 год выданьня


## Будоўля

— Што гэта будуюць
За нашым сялом?
— Будуюць высокі
Цагляны дом.
— Што гэта будзе?
— Дзіцячы сад.
— А для каго?
— Для малых акцябрат.
— Што гэта будуюць
Дзень за днём?
— Шматпавярховы
Цагляны дом.
— Што гэта будзе?
— Будзе завод,
Дасьць нам машын ён
Тысячы ў год.


Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

# КАЛГАСЬНІЦА

# Наста





Нарыс П. ЧЫКУНА

Малюнкі ЦІХАНОВІЧА

**Наста Маўчан з калгасу „Камсамольская воля"— лепшая ўдарніца. Яна мае за плячыма 50 нялёгкіх год. З дня-у-дзень працуе на самых ударных работах разам з маладымі.**

**Яна сёньня прышла з работы, калі ўжо сьцямнела. Весела акінула вачыма пакой свой, у якім ужо сядзелі дзяўчаты і жартамі сустракалі яе.**

**Пачалася гутарка. Гаварылі аб тым, як калгас будзе праводзіць 15-гадовы юбілей Кастрычніцкай рэвалюцыі, як каму жывецца і жылося. Тут-жа і Наста расказала пра сваё жыцьцё, што яна мае, стаўшы калгасьніцай.**

* * *

— Жыву я цяпер,—пачала Наста,—нядрэнна. А калі-ж успомніць, як раней жылося, дык, трэба сказаць, жыву добра. Часта так бывае — чалавеку палепшае, а ён не заўважае гэтага.

Мінулае жыцьцё — праклятае было. Кляла яго, не перастаючы, бо бяда на кожным кроку пільнавала і ўсё больш і больш гнула, каб давесьці да торбы.

І цяпер, бывае, пасварышся, накрычыш, калі бачыш непарадкі.

Працуем у калгасе мы трэці год. Рознае давялося бачыць. Сёлета многа лепш стала калгасьнікам. Тут працадзень дапамог калгасу цьвёрда на ногі стаць. Цяпер

добра ведаюць калгасьнікі, што такое працадзень. Тут ужо лежабоцтвам не пражывеш. Больш старацца сталі. Іншая работа пайшла.

Каму ня хочацца больш мець? А хто больш атрымаць мяркуе, павінен мець больш працадзён. А працадзень дарэмна не даецца: папрацуй добра — атрымаеш.

У мяне сем'я з сямі душ. Учацьвярых штодня ходзім на работу. Малыя ў ясьлях гадуюцца.

Мы выпрацавалі сёлета 500 працадзён. І яшчэ напэўна будзем мець 200. 700 працадзён будзе за год. А каб я не хварэла, яшчэ больш вышла-б.



*Тут-жа і Наста расказала пра сваё жыцьцё.*

Але і так мы добра зарабілі. Праўленьне падлічыла, што на **адзін працадзень толькі жыта прыходзіцца па 3 кілё, і мне належыць атрымаць 130 пудоў.** А яшчэ-ж будзем атрымліваць ячмень, пшаніцу, бульбу, гарох, гародніну, корм для жывёлы, а таксама і грошы.

На маю сям'ю гэтага будзе многа, і я **прадам пудоў 50 збожжа** на калгасным рынку. Вось мы і адзеты, абуты ды пад'еўшы. А што больш трэба? Тут Наста прыпынілася, разьвёўшы рукамі. Потым зноў пачала:

— Гультаём і кулаком калгас не да густу. Мне вось нядрэнна, калі стараюся. Што тут гаварыць? Хлеб ёсьць, мяса, малако ёсьць, голыя ня ходзім, нават згатуюць у сталоўцы. Прыду, наемся, мне пададуць, за мною прыбяруць. Я ўжо забываюся, як гаршкі ў печ ставіць.

Дзеці ў школе вучацца. Я і то буду вучыцца сяголета. Вось да чаго дажыла. І ня сьніла, што так жыць буду.

* * *

Тое, што было, ня вернецца болей. А было:

Панурае Забалацьце, доўгая вёска, расьсечаная напалам вечна гразкай вуліцай. Сярод пасівелых хатак загубілася на выгане хацінка Насты Маўчаніхі, і пазірала на суседняе балота плаксівымі вакенцамі. Доўга давялося жыць тут Насьце з вялікай сваёй сям'ёй. Што гэта за жыцьцё было, няхай сама яна раскажа.

— Зямлі сваёй ні лапінкі. Хату паставілі на выгане, дзе гаспадар—уся вёска. А сеяць няма дзе, няма чым. Са сьлязьмі выпрасіла ў суседа шнурочак аблогі. Вядома, ніхто добрай зямлі ня дасьць. За вялікую ласку палічыў гэта багаты сусед. Потым-жа трэба было яе ўрабіць,

засеяць. А чым? Зноў пайшла прасіць, маліць заможнікаў. Мне дапамагалі, нібы старцу дарылі. Такая літасьць сьлёз горкіх каштавала. За ўсё трэ' было плаціць, бо „няма дурных дарма даваць“,—як казаў кулак Мацей Алейнік,— „раз узяў, то плаці“. А чым-жа я магла плаціць? Дзе багацьце маё? Рукі мазольныя за ўсё адказвалі. Дзеці маленькімі пайшлі ў парабкі да кулакоў...

Пры ўспаміне аб мінулым, Наста схіліла галаву. Здавалася, вось-вось яна ўсхліпне. Але не. Наста цяпер адчувае сябе моцнай, жудасьць мінулага прайшла, як здань. Яна ўзьняла галаву і з нейкай няведамай злосьцю, поўнай нянавісьці, расказала далей аб сваім жыцьці:

— Потым далі мне зямлі на пасецы, дзе навакол жылі кулакі—Лойкі, Міціеўскія, Бабіцкія. Адрэзалі ад кулака Бабіцкага 5 дзесяцін зямлі і далі мне.



*Мінулае жыцьцё—праклятае было.*

Узялася будаваць гаспадарку. Перацягнулі на навасельле трухлявую хатку. Кулакі, шалеючы ад злосьці, стараліся выжыць мяне з суседзяй. Бабіцкі ноччу перастаўляў колікі на маіх палосках і заворваў маю зямлю. Такімі хітрыкамі за два гады ён украў ад мяне 6 сажняў зямлі праз усю палосу. Калі складалі хату, дык ён ноччу, крадком, раскідаў яе — што за дзень пабудуюць, то за ноч раскідана.

З мяне зьдзекваліся, сьмяяліся кулакі і іх сябры — Дзмяновічы, Вашкевічы, якія былі пралезьлі ў сельсавет.

Пасьля 5-ці год „суседзтва“ з кулакамі, Наста ўбачыла, што нічога ня выходзіць з яе работы. Як ні стараецца яна, усёроўна не хапае хлеба, не адчапіцца ёй ад жабрацкага жыцьця. Яна ўступіла ў калгас.

Наста пайшла ў калгас не адразу. Крывымі сьцежкамі ішоў гэты шлях. Рашала, сумнявалася, баялася. А калі прышла, то ўбачыла — дарэмна ня ўступіла раней.

Зараз яна цьвёрда зажыла на навасельлі.

## Дзіва

ЗАГАДКА

---

У нашым калектыве
Завялося дзіва.
Страхоча, лапоча
З ранку і да ночы,
Па полі шагае,
Рукамі махае.
Хлеб рэжа зубамі,
Плюецца снапамі.
З боку сядзіць Захарка
А завуць гэта дзіва..?




Апавяданьне А. НЯВЕРАВА
Малюнкі КРОЛЯ

Колькі раз Петрык чуў пра камуну, але ня ведае як сьлед, што гэта такое.

Аднаго разу раніцай бацька сказаў Петрыку:

— Хадзем са мною ў камуну.

Петрык зарадаваўся і напалохаўся крышку.

Прышлі на былы панскі двор. Глядзяць: дзе-ж камуна?

На дварэ дзеці гуляюць, за сталом у доме людзі абедаюць, чалавек пятнаццаць. Пасадзілі і Петрыка з бацькам. Бацьку сказалі:

— Мы ядзім усе разам і робім разам. Хлеб і жывёлу ня дзелім.

Бацька кажа:

— Прымеце і мяне ў вашу камуну. Цяжка мне аднаму жыць. Я таксама працаваць буду на карысьць усіх.

Камунары згадзіліся.

Ня было ў Петрыка ботаў цёплых, каб у школу зімою хадзіць. Рубашку Петрык насіў лядашчую, парваную, брудную. Дала камуна Петрыку боты з свайго запасу і новую рубашку з штанамі.

Потым Петрык запытаўся ў бацькі:

— Тата, дзе-ж камуна?

Бацька сказаў:

— Вось гэта і ёсьць камуна, калі людзі працуюць разам і памагаюць адзін другому, як браты.





# Уціль

Верш дзяткора Я. ХОМЧАНКІ

Любіць Фэлька, любіць Грышка
На завод хадзіць гуляць.
Паглядзець цікава крышку,
Як там будуць працаваць.

Панавалена жалеза
На дварэ каля дзьвярэй,
Многа розных тут абрэзкаў
І ніхто іх не зьбярэ.

Грышка з Фэлькам парашылі,
Каб сабраць тут кожны цьвік,
Шрубкі розныя і шыны
Ды здаць гэта на уціль.

Ў дзень выходны акцябраты
Тут сышліся працаваць.
Нават вышаў Грышкаў тата
Акцябратам памагаць.

А за добрую работу,—
Што сабралі лому шмат,—
Закупіў фабком заводу
Многа кніг для акцябрат.

І ў Зарэчнага Мірона
Кніжкі гэтыя ляжаць.
Цяпер кожны акцябронак
Можа кніжку пачытаць.




Апавяданьне А. Дыла
Малюнкі Кроля

У дзіцячым садзе скончыліся заняткі. Сабраліся дзеці ісьці дамоў. Некаторыя пашлі самі, па другіх маткі прышлі.

— Валодзік, ты сам пойдзеш?—пытаецца ў маленькага хлопчыка цёця Галя.

— Сам,—важна адказаў Валодзя,—мама сёньня занятая, а я дарогу ведаю.

Апрануўся Валодзя і вышаў на вуліцу.

А на вуліцы шмат цікавага.

— Гу-гу-гу—гудуць аўтамабілі.

— Дзінь, дзінь, дзінь—звоняць трамваі.

Ідзе Валодзя тратуарам і бачыць як насупроць праз вуліцу будуюць рабочыя вялікую камяніцу, шматпавярховую.

Загледзеўся Валодзя на рабочых і забыўся, што трэба дамоў ісьці.

— Трам-трам-трам — ідуць піанэры пад барабанны бой.

Мільгаюць чырвоныя гальштукі.

— Левай, левай, раз, два! — камандуе важаты.

І ногі Валодзі неяк самі пад гукі барабана замаршыравалі за піанэрскім атрадам.

— Раз, два, левай!

Шагае Валодзя, сьпяшаецца, каб не адстаць ад піанэраў і каб ісьці разам з імі.

Падышлі піанэры да вялікага будынку.



*Ідуць піанэры пад барабанны бой.*

— Раз, два, левай! — і павярнулі ў шырокія вароты.

Тут толькі спыніўся Валодзя.

— Куды-ж гэта я зайшоў? — спытаў ён сам сябе.

Вялікая, незнаёмая вуліца. Валодзя пабег назад, завярнуў у адну вуліцу, у другую, але ўсё гэта ня іх вуліцы. Спужаўся спачатку, а потым усьміхнуўся: „Вось дурны, чаго-ж гэта я спалохаўся, я-ж ведаю свой адрас, мама шмат разоў казала: памятай, Валодзік, свой адрас, тады ніколі не заблудзіш“.

І Валодзя добра помніў свой адрас.

— Цяпер трэба толькі ў каго-небудзь запытацца, як прайсьці дамоў.

На рагу вуліцы стаяў міліцыянэр. Ён палачкай кіраваў рухам і сачыў за парадкам.

Валодзя сьмела падышоў да яго і запытаўся:

— Таварыш міліцыянэр, скажэце, як мне на нашу вуліцу трапіць?

— А дзе-ж ты жывеш?

— На Пралетарскай, дом № 105, кватэра 3.



*Міліцыянэр пасадзіў Валодзю ў трамвай.*

—Э, далёка-ж ты зайшоў, як ты сюды трапіў?

Разсказаў Валодзя міліцыянэру пра ўсе свае прыгоды.

— Ну, што-ж, трэба табе памагчы. Пачакай трохі. Вось зараз трамвай пад'едзе.

— Дзінь-дзінь-дзінь, — пад'ехаў трамвай. Міліцыянэр нешта пагаварыў з кандуктарам, пасадзіў Валодзю у трамвай і сказаў:

— Едзь, хлопчык, дахаты. Кандуктар табе скажа, дзе зьлезьці.

Едзе Валодзя, а ўсе ў трамваі дзівяцца, што такога маленькага пусьцілі бацькі аднаго ехаць. А калі кандуктар расказаў аб прыгодах хлопчыка, дык сталі спачуваць Валодзю.

Пытаюцца: „Ты-ж, мусіць, вельмі спужаўся“?

— Не,—важна адказаў Валодзік,—толькі спачатку трохі спалохаўся. А як успомніў адрас—тады нічога.

Вось і Пралетарская вуліца.



*А дома маці даўно ўжо чакала яго.*

Зьлез Валодзя з трамваю ды пабег дахаты.

А дома маці даўно ўжо чакала яго.

— Дзе-ж гэта ты прападаў, сынок, так доўга?

— Я заблудзіўся, мамачка, і добра, што адрас свой ведаў, а то невядома калі дахаты трапіў-бы.

# ЯК ХТО СУСТРАКАЕ ЗІМУ



*Бабёр.*

Прышла восень.

На двары пахаладнела. Насталі хмурныя і даждлівыя дні.

Ападаюць з дрэваў жоўтыя лісьця. Паглядзеце на бярозавы гаёк, што каймою ідзе па ўскраі лесу,—ён ахоплены жоўтым полымем, гарыць жаўцізною яго ўбраньне — лісьце.

У далёкі край паплылі буслы. Доўгімі ключамі, з жаласбным разьвітальным крыкам паляцелі на поўдзень гусі, жураўлі. Сям-там відаць невялічкія чароды меншых птушак: дразды, шпакі, жаваранкі, ластаўкі—яны таксама ляцяць у цёплы край.

Надыходзіць холад.

Калі вы прыглядаліся добра, дык заўважалі ў гэты час трывогу, неспакой. З далёкай поўначы ідзе зіма і ўсе стараюцца сустрэць яе падрыхтаванымі.



*Вавёрка.*

Па вёсках людзі аглядаюць прызбы хат, укладаюць іх кастрыцаю, абсыпаюць большым пластом зямлі капцы з бульбаю, капаюць раўчукі каля будынку, загатаўляюць дровы на зіму.

Вялікімі чародамі зьбіраюцца ля крыніц дзікія качкі;

тут яны будуць да самае зімы, а іншыя і на зіму застануцца. Глушцы забіваюцца ў нетры асіньніку, цецярукі і рабчыкі — у бярозавыя гаі, а белыя курапаткі—на журавінныя балоты.



*Воўк.*

Ва ўсіх зьвяроў да зімы гусьцее шэрсць, адзяюцца яны цёплым пухам. Некаторыя з іх (зайцы, гарнастаі, пясцы, ластаўкі, паўночныя алені) мяняюць свой колер шэрсьці на белы. Цяжэй тады заўважыць такіх зьвяроў паляўнічым на асьнежаных прасторах.

Інакай сустракае зіму мядзьведзь.

Ён забіраецца з надыходам холаду ў бярлогу і там будзе спаць да зімы непрабудным сном.

Закопваюцца ў норы пад кустамі і сухім лісьцем вожыкі.

У дуплах засынаюць кажаны.

Затое ваўкі робяцца больш лютымі, шукаючы сабе спажывы.

Адчуваюць надыход зімы і жыхары вады.

Сом закопваецца на глыбокіх мясцох у іл, ідуць у глыбокія ямы шчупакі, галаўні, плоткі.

Кожны па-свойму сустракае зіму.



*Мядзьведзь.*

# ІСКРАМ ІЛЬІЧА — ТРЫ ГАДЫ

Наша часопісь выдаецца ўжо тры гады. Яна пачала выходзіць разам з газэтамі „Піанэр Беларусі“ і „Юнгер Ленінец“. За гэты час часопісь дабілася вялікіх посьпехаў. Тысячы дзяцей знаходзяць у сваёй часопісі многа карыснага і цікавага. Шмат у якіх школах часопісь выкарыстоўваецца, як падручнік. Лепшыя апавяданьні і вершы з часопісі ўваходзяць у школьныя чытанкі.

Але мы маем і недахопы ў часопісі. Іх мы стараемся зьнішчаць з нумару ў нумар. Вялікі наш недахоп і той, што ня ўсе дзеці ведаюць пра сваю часопісь. Ня ўсе школы выпісваюць „Іскры Ільліча“. Гэтага не павінна быць.

5-га сьнежня будзе праводзіцца дзень нашага дзіцячага друку, дзень, прысьвечаны юбілею.

За гэты час нам трэба дабіцца, каб часопісь была пашырана ў кожнай школе, каб кожны акцябронак і вучань чытаў „Іскры Ільліча“.



## „ІСКРАМ ІЛЬЛІЧА“

**За якасьць нашай працы**
**ты вучыш нас змагацца**

Вітаю шчыра я цябе,
Вітаньне шлю ад многіх.
Ты у рабоце усім нам
Паказваеш дарогу.
За якасьць нашай працы
Ты вучыш нас змагацца.

Дзяткор М. КАЛАЧЫНСКІ

## ПАШЫРЫМ СВАЮ ЧАСОПІСЬ

У школах гораду Дзяржынску дагэтуль бадай што ня было часопісі „Іскры Ільліча“. Настаўнікі нічога не расказалі вучням пра часопісь, не дапамаглі выпісаць яе.

12-га лістапада быў наладжаны ранішнік, прысьвечаны дзіцячаму друку. На гэтым ранішніку праводзілі гутаркі з чытачамі пісьменьнікі **Янка Маўр і А. Якімовіч**. Вучні г. Дзяржынску пастанавілі: усім падпісацца на сваю часопісь „Іскры Ільліча“, дабіцца таго, каб часопісь была пашырана ў кожнай школе.

ВУЧАНЬ.

## УСЕ ПАДПІСАЛІСЯ НА ЧАСОПІСЬ

**Усе вучні 2-й Магілеўскай ФЗС выпісваюць часопісь „Іскры Ільліча“. Часопісь нам вельмі падабаецца. Мы чытаем яе на занятках у школе.**

БАРЫС ФЭЙГІН.

# МЫ ВУЧЫЦЦА ДОБРА ЎМЕЕМ

Верш дзяткора **М. КАЛАЧЫНСКАГА**

Кожных сорак пяць хвілін
Мы у клясе, як адзін.
Сьцёпка, Грышка
і Альжбета
Тут змагаюцца за веды.
Толя, стаўшы каля дошкі,
Расказаў будову мошкі.
Але вось ужо званок
Зазьвінеў—канчай вурок!
Гуртам з клясы выбягаем
Ды у гульні пачынаем.
Юрка, я, а з намі—Роба
Любім гульні „у вучобу“.
Мы гуляем, ня дурэем
І вучыцца добра ўмеем.



## Заморскія казкі

Я. МАУР

# БЯДА АД ХЛЕБА

У нейкай заморскай краіне здарылася вялікае няшчасьце: сабралася занадта многа хлеба! Няма куды яго дзець, ды годзе.

А тут яшчэ, як на тое ліха, новы ўраджай зьбіраецца быць вельмі добры. Пшаніца густая, нібы мора калышацца, і ячмень, і кукуруза добра расьце. Ну, проста хоць караул крычы.

Вось пшаніца красуецца. Глядзяць людзі на неба і кажуць:



*— Хай-бы яе саранча паела!—ледзь ня плачуць людзі.*

— Хоць-бы на яе дождж пайшоў.

А неба, як на зло, чыстае, надвор'е ціхае, цёплае.

Адкрасавала пшаніца, зерня налівае.

— Хоць-бы на яе сьпякота, сухавей які!—злуюць людзі.

А тут якраз ціхі, цёплы дожджык.

— Хай-бы яе саранча паела лепш, суслікі, ці якаянебудзь халера!—ледзь ня плачуць людзі.

Але пшаніца расьце сабе ды расьце, як лепей ня можа быць.

І пачалі тады людзі паліць пшаніцу на полі, паліць ужо сабраную і змалочаную ў печах.

А ў гэты самы час па краіне бадзяліся мільёны галодных людзей. Яны шукалі хлеба. Іначай кажучы,— шукалі працы, каб за гэта дастаць хлеба. Але працы ня было, а, значыцца, ня было і хлеба.

Гэтыя людзі былі худыя, бледныя. Яны шукалі сабе скарынкі хлеба ў памыях, у сьмяцьцёвых ямах. Сотні іх памiралі ад голаду.

Каб зьнішчаць, паліць хлеб, таксама патрэбны рабочыя рукі. І вось некаторыя з галодных людзей атрымоўвалі гэтую работу— кідаць хлеб у печ.

Са сьлязьмі на вачох рабілі яны гэтую работу. Пакуль яны працавалі, дык



*І пачалі тады людзі паліць пшаніцу.*

мелі хлеб. Але праца была часовая. Калі хлеб для апалу скончыцца, яны зноў застануцца бяз працы, а значыцца і бяз хлеба. Зноў пачнецца галадоўля.

---

Сумная казка. Праўда? Нават і выдумляць ня варта было. Але... гэта ня выдумка, а праўда. Адбываецца гэта на вачох усяго сьвету, у Амэрыцы, у „культурных" Злучаных Штатах.

Вы пэўна спытаецеся: чаму-ж тады не аддаць хлеб галодным, заместа таго, каб яго нішчыць?

Амэрыка — краіна ўласьніцкая, таму меркаваньні там зусім іншыя: хлеба многа, а пакупцоў, дзякуючы беспрацоўю, — мала; таму цана на хлеб вельмі малая. А калі раздаць лішкі хлеба, дык пакупцоў зробіцца яшчэ менш, цана яшчэ больш зьменшыцца. Рэшту хлеба будзе яшчэ цяжэй прадаць. Ну, а калі зьнішчыць лішкі хлеба, дык цана падвысіцца і на рэштках хлеба можна будзе зарабіць. А што па краіне вандруюць мільёны галодных беспрацоўных,—гэта сытых капіталістаў не датычыцца.

## ШТО МОЖНА ЗРАБІЦЬ З ЯЕК?

Сабраліся ў адным клюбе паважаныя культурныя людзі і пачалі думаць над тым:

— Што рабіць з яек?

Зьесьці яйкі гэтыя паважаныя культурныя людзі не маглі, бо надта ўжо многа набралася гэтых яек, ды і абрыдалі яны ўжо даўно.

Прадаць таксама ня варта, бо надта ўжо яны танныя. Важданіны шмат, а заробіш некалькі рублёў. І навошта яны, калі ўсе людзі, якія сабраліся тут, самі ўсе багатыя.

Аддаць галодным — таксама шкода. Як гэта так ні зашто ні пра што аддаваць сваю ўласнасьць?

Усе згадзіліся на тым, што яйкі лепш за ўсё зьнішчыць. Калі яек будзе меней,—цана на іх павялічыцца і тады на

невялікай колькасьці з меншым клопатам зробіш больш, як прадаўшы шмат яек па малых цэнах.



— А ці нельга з гэтага зрабіць якую-небудзь цікавую забаву, гульню? — прапанаваў адзін тоўсты і вясёлы дзядзька. — Ну, напрыклад, гульню ў яйкі як у сьнежкі. Хто каго пераможа. Можна выклікаць на спаборніцтва суседні клюб. А каб не запэцкаць сябе, зробім панцыры, як у даўнейшых рыцараў. Вось будзе пацеха! Асабліва, калі трапіць яйкам у твар.

Усе сорак паважаных і культурных дзядзькоў прынялі гэтую прапанову з захапленьнем і заіржалі, як жарабцы.

На другі дзень у газэце зьявілася абвестка:

> **„У бліжэйшую пятніцу зьбяруцца члены біржавога і добрачыннага клюбаў і наладзяць між сабой спаборніцтва. Апрануўшыся ў спэцыяльныя панцыры, яны будуць кідаць адзін у аднаго яйкамі, пакуль ня зьнішчаць сто скрынак яек. Такія спаборніцтвы будуць паўтарацца, пакуль яйкі не падымуцца ў цане“.**

У вызначаны час рыцары яек сабраліся ў клюбе. Адзелі свае панцыры і выстраіліся двума атрадамі адзін супроць

аднаго. Слугі тым часам прыносілі ў памяшканьне скрынкі з яйкамі і ставілі іх каля байцоў. Па камандзе — „пачынай!“—бойка закіпела.

Ну і была пацеха! Аднаму панічу адразу-ж заляпілі вочы. Двое пасьлізнуліся і паваліліся на зямлю. Яйкі шпокаліся ў панцыры, у сьцены. На падлозе стварылася балота. Рыцары зрабіліся падобныя няма-ведама на каго, а з тратуараў, з дзьвярэй, з вуліцы глядзелі людзі і рагаталі.

Раптам на вуліцы пачуліся крыкі, мітусьня, голас палісмэна і жаночы плач, і ў пакой увялі двух бедных жанчын.

Бойка прыпынілася.



*Ну і пацеха была!*

— У чым справа?

— Гэтыя жанчыны ўкралі два дзесяткі яек.

— Значыцца, яны павінны адказваць за зладзейства. Завесьці іх у суд.

— Пашкадуйце, даруйце,— прасіліся жанчыны.—Вы-ж іх зьнішчаеце, а ў нас дзеці галодныя. Мы думалі, што два дзесяткі яек вам нічога не абыходзіць.

— Гэта наша справа. Што мы хочам, тое і робім з нашай уласнасьцю. Але гэта не дае вам права красьці.

Судзьдзя трапіўся „добры“. Ён прыняў пад увагу цяжкае матар'яльнае становішча абвінавачаных і аштрафаваў кожную жанчыну толькі па 10 даляраў.

А за гэтыя дзесяць даляраў можна было купіць некалькі скрынак яек.

---

Ці мог-бы хто з вас выдумаць такую недарэчную казку?

Аўтар таксама ня мог. Ён вычытаў гэта з амэрыканскіх газэт.

Абвестка аб спаборніцтве была зьмешчана ў Каліфорнскай газэце „Сіэтл Пост Інтэлінджэнсэр“. Падзеі адбыліся ў амэрыканскім горадзе Цюрлаку. Там-жа 15-га лютага 1931 году адбыўся суд над жанчынамі.

---



# Сябры

Апавяданьне П. РУНЦА
Малюнкі Л. ЗДАНОУСКАЙ

Надвячоркам гэта было. Алёша сядзеў на ложку і чытаў кніжку. Ад доўгага чытаньня стаміўся трохі. Прылёг адпачыць і неўзаметку для самога сябе хутка заснуў.

Маці, уткнуўшыся ў палатно, шыла і ціха сьпявала. Песьня яе гучэла нудна, адным тонам Скрыпнулі дзьверы, ў хату ўвайшла суседка Агага з каўшом у руках.

— Добры вечар у хату!

— Добры вечар.

— Бялізну шыеш?

— Але.

Бліжэй падышла Агата.

— Сьпіць хлопец... Накрыла-б, ты, Альжбета, яго чым, а то мухі кусаюць.

Маці глянула на ложак.

— А я і ня чула, калі ён заснуў. Чытаў-жа толькі што, седзячы на ложку. Да таго, ведаеш, ахвотнік чытаць, — гаварыла Альжбета суседцы, ідучы ў сенцы па соль.—Сюд-туд ды за кніжку, за газэту.

— Гэта добра, калі ён не пакідае кніжкі, не забудзецца нечага, што зімою праходзілі,—пахваліла Агата і тут-жа дадала: — Майго дык сілаю ня прымусіш узяцца цяпер за кніжку. Кажа, у школу пайду, тады тое будзе, а ўлетку гуляй.

II

Алёша і Лёва сябры па школе. Але з вясны гэтага году ў іх дружбе зьявіўся разлад.

Алёша памагае працаваць у хаце, а ў вольны час чытае, матылькоў ловіць, або лісьце зьбірае для калекцыі.

Лёва любіць гуляць, свавольнічаць. У яго і хеўра такая сабралася. Злуе Лёва, што не ўдаецца яму ўцягнуць у сваю кампанію Алёшу. І ён аднойчы папракнуў сябра:

— Чаго нос задзіраеш? Сябраваць ня хочаш?

— Калі ты лазіш у чужыя агароды, сады, і цябе людзі лаюць, які-ж ты дружака?—адказаў Алёша.

— А ты ўсё чытаеш? Разумнейшым за ўсіх хочаш быць? Чытай... чытай,—засьмяяўся Лёва і пайшоў да свае кампаніі.

Мінуў некаторы час, і хлопцы зноў сустрэліся на вуліцы. Лёва спытаў:

— Адкуль ідзеш?

— Ад настаўніка. Заносіў кніжкі, што браў чытаць,—адказаў Алёша.

„І дае яму настаўнік кніжкі яшчэ. Водзіцца з ім“,—падумаў Лёва, а потым запытаў:

— А што пад пахаю?

— Газэты. Лістаносец аддаў.

— А куды ты цяпер?

— Пайду газэты чытаць. Хадзем разам.

Хлопцы пайшлі.

Разглядаючы алёшавы газэты, Лёва бачыў шмат цікавых артыкулаў, апавяданьняў і яму хацелася іх прачытаць. Але ён ніводнага так і не прачытаў, бо ня ведаў, за што ўзяцца.

— А што гэта ў цябе за жмук паперы?—беручы вялікую кнігу з газэт, запытаў Лёва.

— Асьцярожна! Гэта калекцыя. Я сабраў усе віды пустазельля нашай мясцовасьці. Зімою вывучаць будзем.

Лёва адгарнуў першы ліст. Як жывы прыліп да паперы васілёк: кветка, сьцябло, корань. Перагарнуў далей:—куколь, асот... І Лёва зайздросна паглядзеў на Алёшу.

— Чаму ты мяне ня клікаў зьбіраць?

— Чаму-ж гэта не? Ты забыўся, мусіць, як махнуў рукою на мае ўгаворы. Дык я адзін узяўся за гэту работу.

Лёва зразумеў сваю памылку. Цяпер ён шкадаваў, што дарэмна прагуляў лета і нічога не зрабіў.

III

Ласкава сьвеціць сонейка ў вочы. Павявае вецер з палёў, нясе пах ральлі і залацістыя лісьця дрэў шалясьцяць.

З торбачкамі за плячыма, з клумачкамі пад пахай ідуць у школу дзеці.

Вось і школа. Усе дзеці на двары. Адны ў мячык гуляюць, другія ганак абляпілі: расказваюць адзін другому, сьмяюцца. Шум, гоман, радасныя крыкі. Трэці дзень ужо гудзе школа нібы вулей.

Настаўнік Іван Пятровіч паглядзеў на гадзіньнік — пачынаць пара заняткі.

Зазваніў званок. Пабеглі вучні ў школу, садзяцца за парты, суцішваюцца.

Даўшы заданьне малодшым групам, Іван Пятровіч падышоў да трэцяй.

— Сёньня, дзеці, мы зоймемся паўтарэньнем пройдзенага па геаграфіі. Я раскажу вам, аб чым мы летась праходзілі, бо вы-ж, напэўна, забыліся за лета?

— Забыліся.

— Дзіва што.

— Ня ўсе,—гудуць галасы.

— От зараз паглядзім,—ветліва ўсьміхаецца настаўнік.—Ну, скажы мне, Лёва, колькі ўсіх частак сьвету?..

— Эўропа, Азія, Нямеччына, Францыя,—сьмела адказвае Лёва.

Гучны сьмех перапыняе яго. Схамянуўся Лёва — няправільна гаворыць. Чырванець пачаў. А тут яшчэ рукі паднялі таварышы,—яны хочуць адказваць. Зусім зьбіўся Лёва з тропу.

— Ня ведаеш? Я і гаварыў, што вы забыліся.

Алёша падняў руку.

— Ну, скажы ты,—выклікаў яго настаўнік.

— Частак сьвету шэсьць: Эўропа, Азія, Афрыка, Амэрыка, Аўстралія і Антарктыда. Апошнюю нядаўна адкрылі,—бойка адказаў Алёша.

— Правільна, сядай.

І цяпер, у гэты час, як ніколі, адчуў Лёва сваю памылку,—няўважлівыя адносіны да кніжкі. Сорамна было перад таварышамі. І Алёша, здавалася Лёву, насьміхаецца з яго стане.

На перапынку Лёва сказаў Алёшу:

— Сам бачу, цяпер я табе не таварыш. Я адсталы, а ты ўсё ведаеш.

Алёша сказаў сябру:

— Канешне, дрэнна, што ты кніжкі ня любіш. Цэлае лета ня браў яе ў рукі. Але не бядуй. Захочаш, дык цяпер нагоніш. Толькі шчыра трэба за навуку ўзяцца.

Лёва слухаў і сэрца яго радавалася. Ня кідае яго Алёша. І ён сказаў:

— Добры ты, Алёша. І дрэнна рабіў я, што ня слухаў цябе, сьмяяўся часта. Цяпер вазьмуся за вучобу.

— А калі ня будзеш ведаць чаго, дык я табе скажу, калі сам буду знаць, а ты мне скажаш, чаго я ня буду ведаць. Толькі трэба вучыцца шчыра, ахвотна. Трэба кніжкі любіць, бо ў кніжках вялікая сіла.




# ворагі саду

**Вось хто шкодзіць зімою яблыням. Гэтыя ворагі садоў сапсуюць не адно дрэва за зіму. Як захаваць ад зайцоў і мышэй сад?**

**Зайцы і мышы ня любяць паху ад бузіны і палыну.**

**Дзеля гэтага трэба кожнае маладое дрэўца абвязаць веццем палыну і бузіны.**

**Калі няма палыну і бузіны, — абвяжэце яловымі галінкамі. Дзе знойдзецца чарот,—абвяжэце чаротам.**

**Пасьля гэтага мышы і зайцы не папсуюць саду.**

**Добра, калі абгарнуць дрэва бяростаю.**

**Усю гэтую работу трэба правесьці зараз, увосень.**



## АЧЫСЬЦІМ САД

*Сонца мала, дні хмурней,*
*Стала многа халадней.*
*Дзецям новая турбота,*
*Цэлы дзень кіпіць работа.*

*Сад ім трэба прачышчаць,*
*Непатрэбнае зразаць. —*
*Усё трухлявае, гнілое*
*Зрэзаць востраю пілою.*



# ЖАРТЫ

## АДКАЗАЎ

Настаўнік (*пытаецца ў вучня*). Чаму зімой на дварэ холадна, а ўлетку цёпла?

Вучань (*скоранька*): Я ведаю. Таму, што ўзімку шчыльна зачыняюць коміны, вокны, дзьверы, а ўлетку— наадварот.

## НЕ ДАСТУПІЎСЯ

— Дзе ты быў, сынок?—пытае маці.

— На рынку, навіны слухаў.

— Ну, што-ж там хаця казалі?

— А хто яго ведае. Народу шмат вельмі, дык ніяк не даступішся.

* * *

— Дзіўная рэч, суседзе, вашы куры пераляцелі праз плот і пашчыпалі ў маім гародзе кветкі.

— Нічога тут дзіўнага. От каб вашы кветкі пераляцелі праз плот да маіх курэй, то гэта было-б дзіўна.

# ЗАГАДКІ

1. Калі чалавека называюць зайцам?

2. У кошыку было шэсьць яблыкаў. Тры хлопчык падзялілі іх паміж сабою пароўну — кожны атрымаў па два яблыкі.

   Пасьля дзеляжу ў кошыку засталося два яблыкі. Як гэта здарылася?

3. Ад якой часткі саней трэба адняць адзін склад, каб атрымаўся толькі пыл?

4. Скручаны, зьверчаны па хаце скача.

## КРУГОМ ШАСНАЦЦАЦЬ

У гэтых квадратах пастаўце такія лічбы, каб у кожным слупку можна было налічыць, зьлева направа і зьверху ўніз, па шаснаццаць. Лічбы ў кожным слупку не павінны паўтарацца адны і тыя-ж.



## КАЛІ ГЭТА БЫВАЕ?

Апусьцелі палі,
Мокра на зямлі,
Дождж палівае.
Калі гэта бывае?

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.

10к

~~Цана 25 кап.~~



# малюнкі нашых Дзяткораў




Друкарня Сталіна. Заказ № 2850. 7.000 экз. Гарліт № 1440.